


*Рубрыку вядзе*

*Лявон* ***БАРШЧЭЎСКІ***

З глыбіні стагоддзяў дайшлі да нас шматлікія балады розных еўрапейскіх народаў, сярод якіх сваім непаўторным каларытам вылучаюцца англійскія і шатландскія народныя балады. Пераклад адной з іх прапануецца сёння ўвазе чытачоў.

ЗАГАДКІ

Шылі надвечар у садзе ўтраіх
Сёстры — Джэніфер, Джэнтль і Джун.
Бачаць: заехаў у госці да іх
Рыцар вандроўны — такі прыгажун!

Джэніфер першай вітаць падышла.
Джэнтль запрасіла гасцінна ў пакой.
Джун к вадапою каня павяла.
А салаўі аж звіняць над ракой.

Ложак для госця паслала адна
І пажадала, махнуўшы рукой:
— Добрай вам ночы і сноў да відна!
А салаўі аж звіняць над ракой.

— Перш чым заснеце,— і госць устае,
Гледзячы ў вочы сястры гаваркой,—
Вы адгадайце загадкі мае.
А салаўі аж звіняць над ракой.

— Што і бязногае гукі ражка
Ўсё ж апярэджвае ў тэмпе трушка?

Што ў нас вастрэй, чым шыпшыны шыпы?
Што йшчэ скупей, чым скупеча скупы?
Што нам цяжэй, чым паклажа свінца?
Што, як і хлеб, саладзей ледзянца?

Што беспрычынна, як марнасць людская,
Сумна ўздыхае, на лёс наракае?
Што, нас усіх паглынаючы ў плыні,
Нават глыбей, чым марскія глыбіні?

Ноч напралёт не наведаў вястун —
Сон ціхамірны дзявочы пакой.
Думалі ўсе, а прыдумала Джун
Пад перасвіст салаўёў над ракой:

— Бег пагалоскі аб ганьбе ці славе
Гук апярэдзіць ражка на аблаве.
Голад вастрэй, чым шыпшыны шыпы.
Доля скупей, чым скупеча скупы.
Грэх на душы па астатні канец
Людзям сумленным цяжэй, чым свінец.

Слушнае слова бацькоў для дзяцей —
Хлеб іх штодзённы, але саладзей.
Сум без прычыны — вятроў уздыханне.
Самая ж глыб між глыбіняў — каханне!

Ясна разгадана ў яснае рание.
Сёстры міргаюць адна да адной:
Рыцару жонкай адгадчыца стане.
А салаўі аж звіняць за сцяной.

**Пераклад з англійскай**
**Язэпа Семяжона.**

## *Дэтэктыў. Прыгоды*

Містэру Паркеру Пайну далажылі, што на прыём прыйшла місіс Эбнер Раймер. Ён ведаў гэтае імя і таму здзіўлена ўскінуў бровы.

Неўзабаве новая кліентка ўвайшла ў кабінет.

Місіс Раймер была высокая, мажная жанчына. Нават тоўстае футра не магло схаваць нязграбную постаць. Твар круглы, шырокі, чырванаваты. Чорныя валасы прычасаны па апошняй модзе, капялюшык аздоблены страусавым пяром.

Наведвальніца ўпала ў крэсла.

— Добрай раніцы! — сказала яна з грубаватым акцэнтам.— Калі вы наогул на што-небудзь здатныя, скажыце, як мне патраціць свае грошы?

— Вельмі арыгінальна...— прамармытаў Паркер Пайн.— У наш час мала хто задае такія пытанні. Вы сапраўды лічыце гэтую праблему невырашальнай?

— Вядома,— адрэзала наведвальніца.— У мяне тры футравыя шубкі, безліч модных французскіх убораў і ўсяго такога. Маю машыну і дом на Парк-Лэйне. Была і яхта, але я не люблю мора. У мяне мноства першакласнай прыслугі. Трохі паездзіла па свеце, пабачыла чужыя краіны. Але цяпер, Бог сведка, усё мне абрыдла, нічога не хочацца ні купляць, ні рабіць.— Дама з надзеяй глянула на містэра Пайна.

— Ёсць яшчэ бальніцы...— сказаў той.

— Што? Так проста аддаць грошы? Дудкі! Грошы зароблены, каб вы ведалі, цяжкай працай. Калі думаеце, што я збіраюся выкінуць іх, вы глыбока памыляецеся. Хачу іх патраціць, але так, каб была якая карысць. Дык вось, калі вам прыйдзе ў галаву якая вартая ідэя, можаце разлічваць на добры ганарар.

— Прапанова ваша мяне зацікавіла,— сказаў містэр Пайн.— Вы не ўпаміналі дачу.

— Забылася. Дача ў мяне ёсць. Страшэнна надакучыла.

— Раскажыце больш падрабязна пра сябе.

— З ахвотай. Мне не сорамна за маё паходжанне. Працавала на ферме. Калі была яшчэ дзяўчынай. Цяжкая была, скажу я вам, работа. Аднойчы пазнаёмілася з Эбнерам — ён працаваў непадалёк. Восем год заляцаўся да мяне, потым мы пажаніліся.

— Замуства было шчаслівае?— спытаўся містэр Пайн.

— Так. Але было і цяжкавата — двойчы ён заставаўся без работы, пайшлі дзеці. У нас было чацвёра, тры хлопчыкі і дзяўчынка. Усе яны памерлі. Можа, калі б выраслі, усё пайшло б інакш. — Твар жанчыны пасвятлеў, стаў крыху маладзейшы.— У яго былі слабыя лёгкія, у Эбнера. Не ўзялі на вайну. На рабоце ўсё ішло добра. Стаў дзесятнікам. Разумны быў чалавек. Удасканаліў нейкі там працэс. Яму добра заплацілі. Ён скарыстаў тыя грошы на новыя пошукі. І пасыпалася! Цяпер ён ужо сам стаў гаспадаром рабочых. Купіў два прадпрыемствы... Астатняе пайшло само сабой. Паплылі вялікія грошы. І цяпер яшчэ плывуць. Бачыце, спачатку было нават цікава. Свой дом, шыкоўная ванная, свая ўласная прыслуга. Ужо не трэба было самой гатаваць, скрэбці каструлі, мыць бялізну. Сядзі сабе на шаўковых падушках у гасцінай і звані ў званок, калі захочацца чаю, ну, быццам тая графіня! Смешна было, і нам гэта падабалася. А потым пераехалі ў Лондан. Уборы я шыла ў самых лепшых краўчых. Паехалі ў Парыж, на Рыўеру.

— А потым?

— Прывыклі да гэтага, здаецца. Але праз нейкі час стала неяк не па сабе. Былі дні, калі ежа нам не лезла ў горла,— а мы ж маглі заказаць, што захочацца! А тут яшчэ здароўе Эбнера пагоршылася. Многа плацілі дактарам. Плацілі многа, але яны нічога не маглі зрабіць. Спрабавалі тое, гэтае. Усё дарэмна. Ён памёр. Яшчэ малады чалавек — усяго сорак тры гады.— Жанчына змоўкла.

Містэр Пайн спачувальна паківаў галавой.

— Пяць гадоў прайшло, а грошы ўсё сыплюцца і сыплюцца. Я не могу прыдумаць, што б яшчэ купіць.

— Зразумела,— сказаў містэр Пайн.— Жыццё ваша сумнае. Яно не радуе вас.

— Надакучыла,— сказала місіс Раймер паныла. — У мяне няма сяброў. Новым патрэбны толькі розныя ахвяраванні, за спінай яны смяюцца з мяне. А старыя сябры адышлі. Бянтэжацца, калі

*А. КРЫСЦІ*

# *Справа адной багацейкі*

**(Апавяданне)**

***З кнігі «Містэр Паркер Пайн, дэтэктыў».***

бачаць, як я раз'язджаю на машыне. Дапамажыце мне чым-небудзь, парайце! Можаце?

— Магчыма, што і магу,— раздумна адказаў містэр Пайн.— Цяжкавата будзе, але, думаю, ёсць шанц на поспех. Магчыма, мне ўдасца вярнуць вам тое, што вы страцілі — цікавасць да жыцця.

— Якім чынам?

— Гэта,— адказаў містэр Паркер Пайн,— мая прафесійная тайна. Я ніколі загадзя не раскрываю сваіх планаў. Толькі скажыце — ці можаце вы рызыкнуць? Я не гарантую поспеху, аднак, думаю, нейкая магчымасць удачы ёсць.

— Колькі ж гэта будзе каштаваць?

— Мне давядзецца ўжыць незвычайныя захады, таму давядзецца нямала патраціцца. Вазьму з вас тысячу фунтаў, вы іх заплаціце наперад.

— Ну і цана! — амаль у захапленні ўсклікнула місіс Раймер.— Але я рызыкну. Прывыкла за ўсё плаціць утрая даражэй. Аднак, калі я ўжо за штонебудзь даю грошы, дык стараюся абавязкова атрымаць тое, за што заплаціла.

— І вы атрымаеце,— сказаў містэр Паркер Пайн,— не бойцеся.

— Сёння ўвечары прышлю вам чэк.— Місіс Раймер паднялася з крэсла.— Сама не ведаю, чаму даверылася вам! Кажуць, дурні і грошы хутка разыходзяцца. А ў тым, што я дурніца, мне не боязна прызнацца. Вы саманадзейна абвясцілі ў газеце, што можаце зрабіць людзей шчаслівымі...

— Аб'явы ў газеце каштуюць грошай,— сказаў містэр Пайн.— Калі б я не стрымаў свайго слова, усе тыя грошы прапалі б. Я ведаю, дзе прычына няшчасця, таму ўмею стварыць адпаведныя ўмовы для шчасця.

Місіс Раймер недаверліва паківала галавой і пайшла, пакінуўшы пасля сябе водар дарагой парфумы.

Прыгажуня Клод Латрэль хуценька ўвайшла ў кабінет:

— Што-небудзь па маёй частцы?

Містэр Пайн пакруціў галавой:

— Даволі складаная справа. Так, нялёгкі выпадак. Баюся, прыйдзецца пайсці на рызыку.

— Можа, місіс Олівер?

Пачуўшы імя славутай пісьменніцы, містэр Пайн усміхнуўся.

— Місіс Олівер,— сказаў ён,— сапраўды больш за ўсіх падыходзіць. Але я прыдумаў больш дзёрзкі і смелы ход. Дарэчы, пазваніце, калі ласка, доктару Антробусу.

— Антробусу?

— Так. Спатрэбяцца яго паслугі.

Праз тыдзень місіс Раймер зноў з'явілася ў кабінеце Паркера Пайна. Той устаў, вітаючы яе.

— Затрымка, запэўняю вас, была выклікана неабходнасцю,— сказаў ён.— Патрэбна было шмат чаго ўладзіць, заручыцца паслугамі аднаго незвычайнага чалавека, якому давялося праехаць паў-Еўропы.

— Ох! — усклікнула жанчына іранічна. У яе з галавы не выходзіла, што яна выпісала чэк на тысячу фунтаў стэрлінгаў і што па чэку выплачаны грошы.

Містэр Паркер Пайн націснуў кнопку зумера. На выклік у кабінет увайшла маладая смуглявая дзяўчына, апранутая ў белы халат медыцынскай сястры.

— Усё гатова?

— Гатова. Доктар Канстанцін чакае.

— Што вы збіраецеся рабіць?— спыталася місіс Раймер.

— Крыху пазнаёміць вас з усходняй магіяй, мадам,— адказаў Паркер Пайн.

Місіс Раймер услед за сястрой паднялася на наступны паверх. Яе правялі ў пакой, не падобны да іншых у доме. Сцены былі ўпрыгожаны ўсходнімі вышыўкамі. Стаялі канапы з мяккімі падушкамі, падлогу ўсцілалі прыгожыя дываны. Нейкі чалавек сагнуўся над кафейнікам. Калі яны ўвайшлі, ён выпрастаўся.

— Доктар Канстанцін,— сказала сястра.

Доктар быў апрануты па-еўрапейску. Твар меў смуглы, вочы цёмныя, незвычайна вострыя і пранізлівыя.

— Гэта мой пацыент?— спытаўся ён нізкім голасам.

— Я не пацыент,— адрэзала місіс Раймер.

— Целам вы не хворая,— паясніў доктар,— але душою вы стаміліся. Мы, усходнія ўрачы, ведаем, як лячыць гэтую хваробу. Сядайце, выпіце кубачак кавы.

Місіс Раймер села і ўзяла ў рукі маленечкі кубак з духмяным напіткам. Пакуль яна няспешна сёрбала, доктар гаварыў:

— Тут, на Захадзе, лечаць толькі цела. Гэта вялікая памылка. Цела — усяго толькі інструмент. На ім іграюць мелодыю. Мелодыя можа быць сумная, дакучлівая. А можа весяліць, выклікаць захапленне. Вось апошняе мы ў вас і выклічам. У вас ёсць грошы. Вы са здавальненнем будзеце іх траціць. Жыццё зноў стане для вас цікавым. Гэта лёгка... лёгка... лёгка...

Пачуццё нейкай вяласці найшло на місіс Раймер. Постаці доктара і сястры пачалі расплывацца. На яе наляцела хваля глыбокага шчасця, захацелася спаць. Усё, што было навокал, пачало расці ў яе вачах.

— Спіце,— гаварыў доктар,— спіце. Вашы павекі заплюшчваюцца. Хутка заснеце. Будзеце спаць. Спаць...

Вочы місіс Раймер заплюшчыліся. Яна плыла ў нейкім цудоўным, вялікім, прасторным свеце...

Калі яна расплюшчыла вочы, ёй здалося, што прайшло шмат часу. Сёе-тое засталося ў памяці, але нібы ахутанае туманам,— дзіўныя, неверагодныя сны; потым пачуццё абуджэння; затым зноў сны.

*(Працяг будзе).*

# «Вясёлка» зачароўвае ўсіх

Светлыя і самабытныя мелодыі выконвае фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Вясёлка» з пасёлка Жамчужны Баранавіцкага раёна. Зусім нядаўна, але адразу смела і па-дзіцячы шчыра заявіў пра сябе гэты калектыў. Сваім нараджэннем ён абавязаны настаўніку мясцовай школы Сяргею Вітальевічу Логінаву. Таленавіты музыкант, тонкі знаўца мясцовых народных традыцый і звычак захапіў дзяцей ідэяй адраджэння і захавання мелодый роднага краю. Нямала папрацаваў Логінаў, каб адрадзіць і абнавіць старажытныя музычныя інструменты. Калі дзеці бяруць у рукі свістулькі, трашчоткі, то мелодыі набываюць арыгінальную гукавую палітру і сапраўднае народнае гучанне.





«Вясёлка» пакарае ўсіх, хто аднойчы пачуў россып яе напеваў. Запрошана яна і на вельмі прэстыжны I Сусветны фестываль дзіцячай фальклорнай творчасці, які па рашэнню ЮНЭСКА праводзіцца сёлета ў Чэха-Славакіі.

НА ЗДЫМКАХ: мы з «Вясёлкі»; юны ўдзельнік ансамбля Саша Якшук.

**Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.**

**(БелТА).**

***Аляксандр КАПУСЦІН***

# Мачанка

***Гумарэска***

У сталоўцы дома адпачынку яны сілкаваліся за адным сталом. Хведар Кузьміч быў чалавек гаваркі, цікаўны і, як цяпер кажуць, камунікабельны. Пакуль афіцыянтка прынясе страву, ён то смешны які анекдот раскажа, то цікавую прымаўку прыгадае. Спакваля, быццам між іншым (некарэктна ж — у лоб: раскажы пра сябе!) папытае ў Антона Дзянісавіча што-небудзь з яго біяграфіі. Даведаўшыся, што Антон Дзянісавіч пісьменнік, выгукнуў:

— Здарова! Канешне, цяпер, калі мы будуем суверэнную дзяржаву, месца пісьменніка на пярэднім краі.— Голас яго стракатаў, як дызельны пускач.— Вы, прэса, у першую чаргу павінны дапамагаць народу вывучаць беларускую мову. Родную сваю. Мы ж, беларусы,— не пыл на ветры.

— Дык жа стараюцца пісьменнікі, кніжкі пішуць,— Антон Дзянісавіч хацеў сказаць узнёсла, але атрымалася неяк вінавата.

— Ага, пішуць. Ведаеце, я люблю беларускую літаратуру.

Антон Дзянісавіч падбадзёрыўся:

— А якія кніжкі вы апошнім часам чыталі? — Употай ён спадзяваўся, што, можа, шчыры кнігалюб назаве і яго які твор.

— Ніякіх не чытаў,— секануў Хведар Кузьміч.— Зрок пачаў падаць. — Ён даніў кампот і з пафасам застракатаў: — Выхаванне ў моладзі нацыянальнай свядомасці — неадкладны наш клопат. Бо, як гаворыць народная мудрасць, заўтрашняе надвор'е залежыць ад сённяшняга ветру.

Антон Дзянісавіч спаважна слухаў і думаў: «Святая праўда. З лопуху ж ружа не вырасце. А якія песні цяпер? З рэпрадуктараў і магнітафонаў на чорт ведае якой мове сыплюцца, быццам смецце з дранага мяшка».

Выходзячы са сталоўкі, Хведар Кузьміч далікатна пацікавіўся, на якія тэмы Антон Дзянісавіч піша кнігі. Пачуўшы, што, у асноўным, па гістарычныя, з лёгкім галантным паклонам падзякаваў пісьменніку: «Маё вам чытацкае шанаванне. Да гісторыі маю вялікую цікавасць. Вось падлячу вочы і налягу на гістарычную літаратуру».

Антон Дзянісавіч з кволай надзеяй падумаў: «І мой, можа, які раман заглыне, як некалі я «Ціхі Дон» заглынуў?» У душы адчуў, як расла і ўзмацнялася яго павага да гэтага чалавека: інтэлігент, сапраўдны, відаць, патрыёт. Не тое, што некаторыя іншыя — пустабрэхі.

Два тыдні праляцелі неўпрыкмет. У апошні дзень знаходжання ў доме адпачынку, пасля абеду, Хведар Кузьміч памякчэлым, нейкім нават лагодным голасам звярнуўся да Антона Дзянісавіча:

— Ёсць у мяне да вас, шаноўны пісьменнік, далікатная гаворка.

«Напэўна, прыдбаў маю кніжку і хоча, каб я напісаў яму аўтограф», — прыйшла да Антона Дзянісавіча радасная здагадка. Маланкай прамільгнула пачатковая фраза аўтографа, якую ён падсвядома падрыхтаваў ужо: «Шчыраму прыхільніку беларускай кнігі...»

— Канкрэтней, прапанова ёсць,— удакладніў свой уступ Хведар Кузьміч.— Давайце на беларускай мове напішам падзяку кухару.— Ён сказаў і азартна, як у заклад на скачках, пацёр далоні.— Праўда ж, смачную беларускую мачанку гатуе, шэльма!

# Народная лякарня

**ПРАЦЯГВАЕМ ДРУКАВАЦЬ РЭЦЭПТЫ ПА МЕДАЛЯЧЭННІ**

1. Пры глістах ужываецца кашка з гарбузовых семачак з мёдам.

Высушанае і абабранае ад лупін гарбузовае насенне (семачкі, 300 г) невялікімі порцыямі растаўчы ў ступцы, дабаўляючы па кроплях кіпячоную астуджаную ваду (не больш за 50 мл) і мёд (15 г). Даросламу прымаць нашча па 1 сталовай лыжцы з перапынкамі на працягу гадзіны. Праз тры гадзіны трэба прыняць слабіцельнае, напрыклад 20 г сульфату магнію, а праз паўгадзіны паставіць ачышчальную клізму.

Дзецям 2—3-гадовым даюць на адзін прыём 50 г кашкі, 3—4-гадовым — 70 г, 5—6-гадовым — 100 г, 10—12-гадовым — 150 г.

Звычайна гэта лякарства прымаюць некалькі разоў з 2—3-дзённым перапынкам.

2. Пры захворваннях кішэчніка, запорах рэкамендуецца гарбузовая каша з мёдам. Яна паляпшае маторную функцыю кішэчніка, узмацняе выдзяленне солей з арганізма, паляпшае работу нырак.

Абабраць гарбуз, парэзаць кавалачкамі і патушыць са сметанковым маслам, затым дабавіць манныя крупы або распаранае проса, мёд, соль і згатаваць кашу.

На 500 г гарбуза — 0,5 шклянкі вады, 60 г манны, 2 сталовыя лыжкі мёду і 50 г сметанковага масла.

3. Пры нетрыманні мачы ў дзяцей добра прымаць мёд перад сном (1—2 чайныя лыжачкі). Больш эфектыўным з'яўляецца ўжыванне мёду разам з настоем крываўніку з палявым хвашчом (па 1 чайнай лыжачцы кожнай травы на шклянку кіпеню, настойваць 2 гадзіны, працадзіць). Прымаць па 0,5 шклянкі.

4. Пры катары носа (насмарку) ужываюць 30 % раствор мёду ў соку сырых чырвоных буракоў. Закапваюць 5—6 кропель у кожную ноздру 4—5 разоў на дзень.

5. Пры кашлі прымаюць напітак, прыгатаваны наступным чынам: 500 г абабранай і пакрышанай рэпчатай цыбулі, 50 г мёду, 400 г цукру варадь у 1 л вады на слабым агні 3 гадзіны. Вадкасць захоўваць у слоіку са шчыльнай накрыўкай. Прымаць па 1 сталовай лыжцы 3—4 разы на дзень.

# Крыжаванка-пераклад




**ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Мелколепестник. 2. Опёнок летний. 4. Ива. 5. Алоэ. 7. Мухомор поганковидный. 9. Колпак кольчатый. 12. Тополь. 14. Мак полевой. 16. Нырок. 17. Кошачья лапка. 18. Молодило. 22. Вяз. 25. Вьюн.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 3. Свёкла. 4. Василёк. 6. Касатик. 7. Моховик жёлто-бурый. 8. Подосиновик. 10. Лещина. 11. Груздь перечный. 13. Лядвенец. 15. Опёнок осенний. 19. Груздь настоящий. 20. Посконник. 21. Плотва. 23. Лютик. 24. Пескарь. 26. Моховик (другая назва). 27. Ежа сборная.**

***Падрыхтаваў студэнт V курса біялагічнага факультэта БДУ Вячаслаў ПЛЯЧКО.***

# Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 26

**ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Павага. 2. Адліга. 3. Валляк. 4. Знаўца. 6. Парада. 7. Нічога. 10. Сціртаванне. 14. Кайстра. 15. Прыклад. 16. Заваёва. 17. Погалас. 19. Спевы. 20. Пацук. 23. Тэрмін. 25. Уваход. 27. Тканка. 28. Гукавы. 29. Крыўда. 30. Пралік.**

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 5. Вандраванне. 8. Сакавік. 9. Слоўнік. 11. Вага. 12. Асцюк. 13. Ахоп. 18. Папас. 20. Пакой. 21. Легкаважнасць. 22. Араты. 24. Кубак. 26. Дрот. 28. Ганак. 30. Прас. 31. Сітаўка. 32. Сырадой. 33. Скавароднік.**





**Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 6993 паасобнікі Зак. 1186. Індэкс 63865.